**22 чэрвеня 2003 года памёр адзін з найталенавіцейшых людзей Беларусі – Васіль Быкаў. Вечная памяць!**

***Разблытайма таямніцы!***

# Скарб думак

***Незалежнае рознабаковае выданне***

**№ 1.**

ПАНЯДЗЕЛАК
27
КАСТРЫЧНІКА
2003 ГОДА

## АД ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА

Вольнае распаўсюджанне інфармацыі з'яўляецца правам грамадзяніна і інтарэсам грамадства. Інфармаванае грамадства можа зрабіць больш асэнсаваны выбар.

Зыходзячы з гэтага прынцыпа ў панядзелкі пачынае выходзіць штотыднёвік «Скарб Думак». Яго галоўнай мэтай з'яўляецца спрыянне атрыманню разнастайнай незалежнай інфармацыі.

«Скарб Думак» выдаецца на беларускай мове і на пачатку свайго жыцця прыемле ўсе варыянты нашага роднага слова. Спадзяюся, што гэта дасць пэўны штуршок далейшаму развіццю нашае мовы.

На жаль, беларускія дзяржаўныя навучальныя ўстановы нават цяпер выпускаюць людзей, у асноўным, непісьменнымі ў родным слове і неабазнанымі ў нашай культурнай традыцыі. Больш таго, ніводнага з беларусаў, хто яшчэ пад уплывам асіміляцыйных працэсаў да канца не страціў свайго этнічнага "Я", не задавальняе той стан, у якім знаходзіцца сістэма народнай адукацыі і нацыянальная прафесійная культура. У іх так мала прыродна беларускага, што гэтыя найважнейшыя сферы духоўнага жыцця з'яўляюцца сур'ёзным тормазам для нацыянальна-культурнага адраджэння.

***/Працяг чытайце на старонцы 2/***

## ЗВЯРНІЦЕ ЎВАГУ!

У сённяшняй бібліятэчцы "Скарба Думак" змяшчаецца артыкул Ігара Кузняцова ***"Носьбіты ідэі беларускай дзяржаўнасці – ахвяры таталітарнага рэжыма"***

/глядзіце старонкі з 3 па 10/

## ШОК. ГЭТА ПА-НАШАМУ,

*АЛЬБО АХОЎВАЕЦЦА ДЗЯРЖАВАЙ...*



*Фотаздымак Юрася Фурса*

/Падрабязнасці на 11 старонцы/

## АД ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА

*/Працяг, пачатак на 1 старонцы/*

Мала ў чым стыкуецца з карэннымі інтарэсамі тытульнага народа краіны дзейнасць асноўных хрысціянскіх канфесій – праваслаўя і каталіцызму. Замест таго, каб садзейнічаць этнічнай кансалідацыі беларускага народа, першая з названых канфесій праводзіць на нашай зямлі курс на ўмацаванне тут расійскіх нацыянальна-культурных традыцый, другая – польскіх (асабліва ў заходніх абласцях). Што ж да нашага галоўнага духоўнага скарбу, найважнейшай этнічнай адметнасці ад іншых народаў – беларускай мовы, дык яе функцыянальная роля ў грамадскім жыцці зведзеная амаль да нулявой адзнакі, чаго не назіралася нават у самы пік існавання савецка-бюракратычнай сістэмы.

І што дзіўна – гэта мала хвалюе дзяржаўныя ўлады Рэспублікі Беларусь, хаця якраз яны павінны несці галоўны цяжар па выратаванні беларускага народа ад канчатковай культурна-моўнай асіміляцыі. З гісторыі ж вядома пра тры амаль несупынныя стагоддзі польскай і расійскай асіміляцыі беларусаў.

Адзін з найвялікшых беларускіх пісьменнікаў В. Быкаў у сваёй кнізе ўспамінаў «Доўгая дарога дадому» пісаў: «Адсутнасць свабоды на родную мову – непераможная сіла няволі, з якой нацыя звыклася, параднілася, ад якой адступаць рызыкова. Як павінны ставіцца да гэтага творцы? Найвялікшы патрыятызм у тым, каб ваяваць з комплексамі сваёй нацыі».

У час, калі так востра абазначылася праблема: быць ці не быць беларускаму народу самабытнай этнічнай супольнасцю надалей, а дзяржава бяздзейнічае – вялікі грэх у гэтай бязрадаснай сітуацыі застаецца толькі сузіральнікам за ўсім тым, што адбываецца з намі. Годзе спаць! Давайма размаўляць і пісаць па-беларуску! Давайма шукаць прычыны глабальнай дэфармацыі нацыянальных асноў беларускага народа і абмяркоўваць шляхі выратавання яго ад этнічнага знікнення! Давайма разважаць пра гэта, запрашаючы як мага болей людзей!

Шаноўныя чытачы! Сёння вы трымаеце ў руках першы нумар штотыднёвіка. Паглядзіце, пачытайце, калі ён вам не спадабаецца, **не выкідайце – перадайце** каму-небудзь са сваіх сяброў і знаёмых, калі да спадобы – чытайце з імі! Будзьма разам! Крытыкуйце нас, дасылайце нам свае матэрыялы! Давайма займацца даследаваннем нашага жыцця, каб як мага меней рабіць у ім памылак, а ўжо зробленыя найхутчэй выпраўляць. Рабіма нашую сучаснасць больш зразумелай і прывабнай!

«Скарб Думак» хочацца верыць, зойме належнае месца сярод выданняў Беларусі.

Міхась ЛЕБЕДЗЬ




### ДА ВЕДАМА ЧЫТАЧОЎ

**У адной з бліжэйшых бібліятэчак "Скарба Думак" чытайце аб змаганні за Ліцэй з погляда навучэнца гэтай установы Франака Вячоркі.**

*Скарб Думак. Бібліятэчка № 1 27 кастрычніка 2003 года*

1

Ігар Кузняцоў

# НОСЬБІТЫ ІДЭІ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ – АХВЯРЫ ТАТАЛІТАРНАГА РЭЖЫМА

Спусташальныя войны і бальшавіцкі тэрор падарвалі нацыянальныя сілы Беларусі. Значная частка актыўных палітычных дзеячаў, якая брала ўдзел ва Усебеларускім Кангрэсе і ў стварэнні незалежнай Народнай Рэспублікі, вымушаная была эміграваць. У Беларусі засталіся адзінкі, да якіх далучыліся тыя, хто вярнуўся з фронту і з царскай высылкі. Нацыянальна-дэмакратычная інтэлігенцыя слушна ацаніла тады палітычны стан.

З улікам тагачасных абставінаў беларускія нацыянальныя лідэры абралі шлях доўгай, крапатлівай і цярплівай працы ў БССР шляхам падняцця нацыянальнай свядомасці народных масаў і падрыхтоўкі маладых актыўных кадраў.

За параўнальна кароткі тэрмін нацыянальная праца ў Беларусі прайшла вялізны шлях. Нацыянальнае адраджэнне стала неаспрэчным фактам. Былі выхаваны нацыянальныя кадры, якія займалі пасады ў дзяржаўным апараце. Узнікалі думкі пра заваёўванне новых пазіцыяў. Усе нацыянальныя мерапрыемствы і праца знаходзілі бясспрэчную падтрымку з боку беларускага народа. Поспехі былі дасягнутыя таму, што лідэры нацыянальнага руху ў сваёй дзейнасці не былі адны, яны заўсёды знаходзілі падтрымку і дапамогу.

На пачатку 1930 г. першай ахвярай ДПУ стаў лідэр беларускіх нацыяналістаў – акадэмік, прафесар Усевалад Ігнатоўскі. Яго выклікалі ў ДПУ на допыт, пасля якога ён застрэліўся на сваёй кватэры.

Другім адчувальным ударам быў арышт наркамзема БССР Дзмітрыя Прышчэпава.

Прышчэпаву прычапілі ярлык ворага народа і шкодніка, памочніка і абаронцы кулакоў, насаджальніка варожых сацыялістычнаму землекарыстанню хутароў і пасёлкаў. У афіцыйных дакументах і прапагандзе дзейнасць Дз. Прышчэпава зняважліва называлася «прышчэпаўшчынай». Аднак зганьбаваная дзейнасць наркамзема Прышчэпава пакінула глыбокі след і добрую памяць сярод беларускага сялянства.

Смерць акадэміка прафесара Ігнатоўскага і арышт Прышчэпава не сталі адзінкавымі, Амаль адначасова была арыштаваная вялікая група выдатных культурных і гаспадарчых працаўнікоў. Сярод іх – вельмі папулярны мовазнаўца, акадэмік Язэп Лёсік, вядомы беларускі географ, акадэмік Аркадзь Смоліч, сакратар Беларускай Акадэміі навук, акадэмік Вацлаў Ластоўскі, рэктар універсітэта прафесар Уладзімір Пічэта і інш.

Наступнай ахвярай ДПУ стаў народны камісар асветы БССР Антон Баліцкі.

У палове 1930 г. у Менску ДПУ былі праведзеныя масавыя арышты, якія амаль не закранулі правінцыю. Былі арыштаваныя вядомыя культурныя беларускія дзеячы Акадэміі навук, універсітэта, Наркамасветы і часткова Наркамзема. Сярод арыштаваных быў і намеснік наркамзема Прышчэпава Алесь Адамовіч. Адбываць пакаранне А. Адамовіча выслалі ў Салавецкі лагер. Далейшых слядоў Адамовіча няма.

Характэрнай рысай арыштаў 1930 і 1931 г. было тое, што нязначнай частцы арыштаваных у якасці пакарання была прызначана вольная высылка. На той час яшчэ не збудавалі дастатковай колькасці канцэнтрацыйных лагераў, таму і высылалі на вольнае пасяленне. Аднак гэта не была высылка з мяккім рэжымам.

Для зручнасці назірання за высланымі ДПУ звычайна канцэнтравала іх у маланаселеных паселішчах паўночных губерняў, дзе яны не маглі знайсці працу, каб зарабіць на харчаванне. Калі ўлічыць, што большасць высланых — людзі разумовай працы, часта ўжо сталага ўзросту, няздольныя да працы фізічнай, а іх літаратурная праца стала ўжо нікому не патрэбная, то становішча высланых было вельмі цяжкім.

Не ўсе мелі сваякоў, якія маглі б сістэматычна дапамагаць ім. Трыцатыя гады — самыя цяжкія, галодныя, насельніцтва ўтрымлівалася на мізэрных нормах харчавання, таму значная частка высланых была асуджана на галоднае выміранне.

На працягу 1930—1931 г. была зрэзаныя вярхі дзеячаў нацыянальнага руху ў Беларусі. ДПУ сваю справу зрабіла, паўстала задача прапагандай апраўдаць такі круты і нечаканы паварот палітыкі. Суд над арыштаванымі быў закрыты, людзі знікалі, каб пазней апынуцца ў

Ігар Кузняцоў

# НОСЬБІТЫ ІДЭІ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ – АХВЯРЫ ТАТАЛІТАРНАГА РЭЖЫМА

Сібіры, на Салаўках, на будаўніцтве Беламорскага канала ці ў высылцы. Арыштаваных абвінавацілі ў арганізацыі і прыналежнасці да *«Саюза адраджэння Беларусі» і «Саюза вызвалення Беларусі».*

У выніку рэпрэсіўнай палітыкі таталітарнай сістэмы 20—30-ых гадоў асабліва пацярпела ад рэпрэсій інтэлігенцыя — інтэлектуальны патэнцыял нацыі.

Ужо ў 1929 г. значная частка беларускай інтэлігенцыі была абвінавачана ў прыхільнасці да нацыянал-дэмакратызму і знята з займаемых пасад. Газеты, часопісы разгарнулі сапраўднае цкаванне тых, каго АДПУ у хуткім часе сабрала пад так званай справай "Саюза вызвалення Беларусі". У 1930 г. пачаліся арышты яе "членаў".

Толькі ў ноч з 18 на 19 ліпеня ў Мінску яму падвергліся больш 25 чалавек, у тым ліку Я. Дыла, Ф. Ждановіч, М. Гарэцкі, У. Савіч, А. Прышчэпчык, А. Адзінец, Ч. Радзевіч, У. Пракулевіч.

*Усяго па справе СВБ праходзілі 108 чалавек, і сярод іх акадэмікі Беларускай Акадэміі навук В. Ластоўскі, Я. Лёсік, С. Некрашэвіч, прафесар А. Смоліч, нарком асветы А. Баліцкі, нарком земляробства Д. Прышчэпаў, пісьменнікі М. Гарэцкі, Ул. Дубоўка, Я. Пушча, шмат хто з навукоўцаў.*

Усе арыштаваныя абвінавачваліся ў тым, што "з'яўляліся членамі контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі... "Саюз вызвалення Беларусі," ажыццяўлялі арганізаванае шкодніцтва на культурным, ідэалагічным і іншых участках сацыялістычнага будаўніцтва, праводзілі антысавецкую нацыяналістычную агітацыю, накіраваную на запавольванне тэмпаў развіцця Беларусі на сацыялістычным шляху, ставячы канчатковай мэтай адарванне Беларусі ў этнаграфічных межах ад Савецкага Саюза, стварэнне так званай Беларускай Народнаи Рэспублікі (БНР)".

Нягледзячы на маральны ціск, які прымянялі да арыштаваных следчыя, а да некаторых і фізічныя меры ўздзеяння, на папярэднім следстве поўнасцю вінаватымі прызналі сябе толькі 25 чалавек, больш за 40 цалкам адмовілі сваю віну і каля 25 прызналіся часткова. У працэсе следства 18 чалавек былі прызнаны невінаватымі і вызвалены з турмы. Сярод іх П. Бузук, М. Байкоў, М. Бурштын, Л. Дашкевіч, А. Дайлідовіч і іншыя. Амаль усе яны зноў арыштаваны і асуджаны ў 1936—1937 гт.

Па сфальсіфікаванай справе СВБ 90 прадстаўнікоў інтэлігенцыі атрымалі розныя тэрміны зняволення, з іх 89 беларусаў і 1 рускі. *А. Адмовіч, А. Баліцкі, П. Ільючонак, Д. Прышчэпаў,* справа якіх у снежні 1930 г. выдзелена у асобную — па 10 гадоў зняволення ў канцлагерах, 8 чалавек па 5 гадоў — *М. Адзярыха, Я. Бядрыцкі, А. Дарашэвіч, П. Жаўрыд, Ф. Ждановіч, М. Каспяровіч, А. Сак, І. Цвікевіч, І. Біндзюк*— на 3 гады.

*Астатнія — да 5 гадоў высылкі з Беларусі ў розныя аддаленыя раёны СССР. Сярод іх М. Азбукін, М. Гарэцкі, А. Гурло, М. Гурскі, М. Грамыка, У. Дубоўка, В. Ластоўскі, Я. Лёсік, С. Некрашэвіч, П. Трамповіч, А. Смоліч, А. Цвікевіч, М. Шчакаціхін і шмат іншых вядомых грамадскіх дзячоў навукі і культуры. [6, с.16 ]*

Гэта быў непапраўны ўдар для Беларусі, яе навукі, культуры і гаспадаркі. Лепшыя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі гвалтоўна пазбаўляліся магчымасці не толькі займацца творчай працай на карысць сваёи Радзіме, але і наогул — па-чалавечы жыць. Толькі адзінкам з іх праз дзесяцігоддзі ўдалося вярнуцца на Беларусь, астатнія па адбыцці тэрміна зняволення атрымалі новыя абвінавачванні і былі асуджаны да вышэйшай меры пакарання, альбо да новых гадоў зняволення ў канцлагерах.

Справа СВБ з'яўлалася першай масавай хваляй тэрору супраць беларускай інтэлігенцыі і адчыніла вялікі пералік розных спраў 30-х гадоў, зрабіўшых жудасную чыстку сярод інтэлігенцыі рэспублікі.

У маі 1931 г. АДПУ сфальсіфікавала і "выкрыла" справу *"Працоўнай сялянскай партыі",* па якой асуджана на розныя тэрміны зняволення і высылкі 59 чалавек, па беларускаму філіялу "Прампартыі" пастановай калегіі АДПУ Беларусі ад 12 верасня 1931 г. рэпрэсавана 30 чалавек і г.д.

У шэрагу іх — значная частка беларускай

3

Ігар Кузняцоў

# НОСЬБІТЫ ІДЭІ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ – АХВЯРЫ ТАТАЛІТАРНАГА РЭЖЫМА

інтэлігенцыі. Нешматлікія яе шэрагі, з вялікай цяжкасцю сабраныя ў 20-я гады *У. Ігнатоўскім, А. Баліцкім, С. Некрашэвічам* і інш., былі спустошаны ўжо ў пачатку 30-х гадоў. У лютым 1931 г. першы сакратар ЦК КП(б)Б К.В. Гей і загадчык культпропа ЦК КП(б)Б А.А. Чарнушэвіч прасілі Маскву "неадкладна прыслаць у БССР навуковых работнікаў па эканамічных дысцыплінах" для выкладчыцкай і навуковай працы.

Прычына гэтага — арышты "у сувязі з выяўленнем контррэвалюцыйных шкодніцкіх арганізацый, значнай групы асоб, працаваўшых у Дзяржплане, ВСНГ і іншых установах. У сувязі з гэтым шэраг вну, і ў першую чаргу БДУ, апынуліся "у катастрафічным стане і стаялі перад зрывам заняткаў і нават поўным закрыццём шэрагу аддзяленняў".

У 1931—1932 гг. пракацілася хваля арыштаў сярод працаўнікоў сельскай гаспадаркі, а таксама ўстаноў, якія займаліся распрацоўкай яе розных пытанняў. Узніклі справы *"Беларускага філіяла працоўнай сялянскай партыі", "Белтрактарацэнтра", "Ветэрынарных урачоў"*. Толькі па ім было арыштавана і асуджана звыш 800 чалавек. Шмат хто з працаўнікоў Народнага камісарыята земляробства БССР, Навукова-даследчага Інстытута сельскай гаспадаркі, Віцебскага ветэрынарнага інстытута трапілі ў турмы.

Сярод іх *Р.А. Бонч-Асмалоўскі* — старшыня сельскагаспадарчай секцыі Дзяржплана, кваліфікаваныя спецыялісты па аграноміі, землеўпарадкаванню, статыстыкі НК земляробства — *Б. Хоцкі, А. Міхайлаў, В. Ліодт, А. Папялышка*, дырэктар Навукова-даследчага інстытута сельскай гаспадаркі *Г. Гарэцкі, акадэмік А. Дубах*, прафесар Віцебскага ветэрынарнага інстытута В. *Макавейскі* і інш.

Але ж самыя масавыя арышты з гэтых спраў ішлі па Белтрактарацэнтры, па гэтаму аб'яднанню рэпрэсіям падверглася 546 чалавек. Па сутнасці амаль цалкам знішчаліся тыя невялікія кваліфікаваныя кадры, якія працавалі ў цэнтральных кіруючых органах сельскай гаспадаркі і на месцах, бо адначасна ішло выкрыццё "ворагаў народа" па раёнах.

У верасні 1932 г. АДПУ БССР ліквідавала ў Мазырскім раёне так званую контррэвалюцыйную арганізацыю *"Сялянскіх саюзаў"*. У яе кіраўніцтве абвінавацілі сельскагаспадарчых спецыялістаў з дарэвалюцыйнай інтэлігенцыі. Па гэтай справе толькі ў адным раёне праходзіла звыш 70 чалавек.

Але на гэтым ганенні супраць інтэлектуальнага генафонду не закончыліся. У 1933 годзе НКУС БССР была ўзбуджана справа па дзейнасці *"Беларускага нацыянальнага цэнтра"*.

*У жніўні 1933 года адбылося "выкрыццё" і "ліквідацыя" Паўнамоцным Прадстаўніцтвам АДПУ па БССР* "шырокаразгалінаванай контррэвалюцыйнай паўстанцкай і шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі "Беларускі нацыянальны цэнтр" і яе філіялаў у Горках і Беразіне". Гэтая 55-томная справа сфальсіфікавана з вялікім размахам і шырокай геаграфіяй ахопу, якая распаўсюджвалася на "значную частку тэрыторыі Беларускай ССР з філіяламі ў гарадах Маскве і Ленінградзе".

*З абвінаваўчага заключэння:*

"В результате своей практической контрреволюционной работы контрреволюционная организация БНЦ к моменту ее ликвидации охватила своей деятельностью ряд хозяйственных и культурных учреждений, вузов, части РККА и значительное количество районов Белорусской ССР:

а) На культурном фронте: БАН, Наркомпрос, Государственная библиотека, Союз советских писателей, НТХИЗДАТ, БелТА, Радиоцентр, редакция газеты "Звязда" и др.;

б) Вузы: Горецкая сельхозакадемия, БГУ, Энергоинститут, Садово-Огородный институт, Научно-исследовательский институт рыбного хозяйства и др.;

в) Советский аппарат: Госплан, Наркомздрав, Наркомпрос, Наркомхоз, Наркомсвязь, Союзхлопкосбыт и др.;

г) Общественные организации: ЦК МОПРа;

д) Партийные организации: Истпарт при ЦК КП(б)Б, представительство КПЗБ и др.;

е) РККА — Разведуправление Штаба

4

Ігар Кузняцоў

# НОСЬБІТЫ ІДЭІ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ – АХВЯРЫ ТАТАЛІТАРНАГА РЭЖЫМА

БВО, гарнизон гор. Борисова, 34-й полк— Старые Дороги, 192-й полк — Орша и ДР.;

ж) 9 крупных городов БССР;

з) 25 районов БССР.

Следствием выявлено и вскрыто:

а) Повстанческих ячеек — 59;

б) Диверсионных ячеек и групп — 19;

в) Террористических групп —4;

г) Шпионских ячеек и резидентур—20.

Основными кадрами организации являлись перебежчики из Польши. Социальной же базой контрреволюционной организации БНЦ являлось кулачество, антисоветски настроенная интеллигенция, бывшие офицеры, служащие в государственных учреждениях, выходцы из социально-чуждых прослоек".

Па справе БНЦ у якасці абвінавачваемых прыцягнуты да адказнасці 97 чалавек. Трэба асобна падкрэсліць, што амаль усе яны ўнеслі значны ўклад у справу беларускага нацыянальнага адраджэння на тэрыторыі Заходняй Беларусі.

Тым не менш 26 з іх па рашэнню судовай Калегіі АДПУ ад 9 студзеня 1934 года былі прыгавораны да вышэйшай меры пакарання, 16 — да вышэйшай меры пакарання з заменай на 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў *(пасля паўторнага асуджэння ўсе яны былі расстраляны ў 1937 г.)*, 17 — да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў (ППЛ), 5 — да 8 гадоў ППЛ, а астатнія — да розных мер пакарання.

Дакументы сведчаць, што "прызналіся" ў прыналежнасці да контррэвалюцыйнай арганізацыі па цэнтры — 77 чалавек і па перыферыі — 204 чалавекі. Кіраўніцтва арганізацыяй было "даручана" следчымі НКУС сямёрцы найбольш вядомых тагачасных беларускіх дзеячаў у складзе: *С. А. Рак-Міхайлоўскага, П. В. Мятлы, І. А. Гаўрыліка, І. С. Дварчаніна, М. Т. Бурсевіча, Ф. І. Валынца, П. П. Валошына.*

Асноўныя накірункі "дзейнасці" арганізацыі сфальсіфікаваны праз "паказанні" на допытах гэтых сямі чалавек. Гэтыя паказанні пісаліся ў час следства, далёка не ў ідэальных умовах, у турэмных казематах, пры крайнім напружанні духоўных і фізічных сіл, пад уздзеяннем і пільным вокам следчых НКУС.

*З абвінаваўчага заключэння:*

"В 1926 г. Польским Главным штабом на территории Восточной Польши был создан контрреволюционный *"Польско-Украинско-Белорусский Блок"* в составе 3 крупных националистических организаций *("Украинский сельроб", "Белорусская Рабоче-Крестьянская Громада" и "Польска Незалежна Партия Хлопска")* с задачами активной борьбы с коммунистическим движением в Восточной Польше и организации широкой повстанческой, шпионской и диверсионно-террористической работы на территории Советского Союза. По заданию того же 2-го Отдела Польского Главштаба в целях реализации задач "Блока" по Западной Белоруссии и БССР в г. Вильно в 1928 г. был создан видными националистами Островским и Луцкевичем "Белорусский политический центр".

Проводя энергичную работу по борьбе с коммунистическим и революционным движением в Западной Белоруссии, *"Белорусский политический центр"* в тесном контакте с польскими разведывательными органами на протяжении ряда лет перебрасывали на территорию БССР под разными предлогами шпионские диверсионные террористические и повстанческие кадры.

Для руководства работой по созданию контрреволюционной организации и активной подготовки вооруженного свержения советской власти в БССР "Политическим центром" была переброшена в БССР значительная часть его членов. Переброшенные в БССР легально и нелегально члены "Политического центра" для практического руководства контрреволюционной организацией создали "Белорусский национальный центр".

Знаёмая схема. Шырокая сетка розных "контррэвалюцыйных, антысавецкіх" арганізацый папярэднічала стварэнню і «Беларускага нацыянальнага цэнтра». Гэтыя версіі ўкладваліся ў "прызнанні" на допытах людзей, арыштаваных па гэтай справе. Звернемся да першакрыніц.

*З абвінаваўчага заключэння:*

5

Ігар Кузняцоў

# НОСЬБІТЫ ІДЭІ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ – АХВЯРЫ ТАТАЛІТАРНАГА РЭЖЫМА

«БНЦ вел подготовку к свержению советской власти и своей конечной целью считал установление Белорусской фашистской республики во главе с военной диктатурой, входящей на основе федерации в состав Польского государства.

Свержение советской власти контрреволюционной организацией БНЦ мыслилось путем вооруженного восстания, намечавшегося, согласно установкам Польского Главного штаба, на осень 1933 или весну 1934 года.

В осуществление поставленных перед собой задач контрреволюционная организация БНЦ вела практическую подготовку к вооруженному восстанию путем:

а) активной вербовки членов в контрреволюционную организацию и воспитания их в духе конкретных контрреволюционных задач;

б) создания на периферии БССР широкой сети контрреволюционных повстанческих ячеек с задачами повстанческой агитации, выявления, учета и сбора оружия;

в) создания специальных диверсионных групп с целью вывода из строя основных промышленных обьектов военного стратегического значения;

г) подготовки к совершению террористических актов над видными партийными и советскими работниками;

д) экономического, военного и политического шпионажа в пользу польских разведорганов;

е) создания ячеек контрреволюционной организации в частях Красной Армии на территории БВО".

Наступным этапам следчай справы было размеркаванне асноўных абавязкаў па забеспячэнню дзейнасці арганізацыі.

Якімі былі вынікі ўсёй гэтай сфальсіфікаванай справы ведома. Ні за што ні пра што пакутавалі сумленныя людзі, а некаторыя з іх былі пазбаўлены самага дарагога — жыцця.

Звычайна ў тыя часы ДПУ ў сваёй друкарні выдавала тэндэнцыйна падабраныя вытрымкі з «паказанняў» арыштаваных, здабытых гвалтоўным шляхам. У выглядзе спецыяльнай брашуры, як зусім сакрэтны, гэты матэрыял перадаваўся для азнаямлення высокаадказным камуністам.

Задачай прапаганды было паказаць нацыянальны рух у Беларусі як контррэвалюцыйную, шкодніцкую, шпіёнскую працу беларускіх нацыяналістаў, накіраваную на адлучэнне БССР ад Савецкага Саюза і на стварэнне буржуазнай нацыянальна-дэмакратычнай рэспублікі.

Арыштоўвалі беларускую інтэлігенцыю, мозг нацыянальнага руху, яго тэарэтыкаў і практычных выканаўцаў. Прапаганда павінна была іх скампраметаваць, паказаць у самым агідным выглядзе не толькі ў гэтай дзейнасці, але і выкарыстаць розныя выпадкі з прыватнага жыцця і грамадскай дзейнасці, незалежна ад таго, калі і пры якіх абставінах яны былі. Улічвалася, вядома, і сацыяльнае паходжанне.

Было зроблена ўсё, каб абняславіць арыштаваных. Нацыянальны рух зневажальна ахрысцілі «нацдэмаўшчынай», а ўсіх, хто ўдзельнічаў у нацыянальнай працы ці спачуваў нацыяналістам, назвалі «нацдэмамі». Савецкі друк, прамоўцы на афіцыйных і неафіцыйных сходах у розных варыянтах скланялі гэтыя эпітэты.

Па заданні сакратара ЦК камуністычнай партыі Гея ў Акадэміі навук былі створаныя «брыгады», якія старанна вышуквалі ў друкаваных працах, у стэнаграмах дакладаў і выступленняў элементы нацдэмаўшчыны. Старанна рэвізаваліся паэзія і проза западозраных у «нацдэмаўшчыне» пісьменнікаў, газетныя артыкулы і г. д.

Апрача арыштаваных, шукалі новых, т. зв. нявыяўленых нацдэмаў. Нападкі ператвараліся ў цкаванне. У выніку вядомы беларускі паэт Янка Купала быў даведзены да адчаю і спрабаваў скончыць жыццё самагубствам.

Старанна праглядваліся школьныя падручнікі. Большасць падручнікаў былі знятыя з ужытку, асабліва хрэстаматыі для чытання, граматыкі, зборнікі дыктовак. Адны здымаліся аўтаматычна з прычыны арышту іх аўтара, незалежна ад зместу. Іншыя падручнікі былі знятыя, бо не адпавядалі эпосе

Ігар Кузняцоў

# НОСЬБІТЫ ІДЭІ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ – АХВЯРЫ ТАТАЛІТАРНАГА РЭЖЫМА

калектывізацыі сельскай гаспадаркі і сталінскіх пяцігодак.

Адначасова з арыштамі нацдэмаў з бібліятэк, чытальняў канфіскавалі ўсе працы арыштаваных, незалежна ад таго, мелі яны дачыненне да абвінавачванняў ці не. Усё, што ствралася на працягу некалькіх гадоў — працы па гісторыі, этнаграфіі, геаграфіі, літаратуры, мастацтве, краязнаўстве, творы маладых і старых таленавітых паэтаў і празаікаў, навуковыя даследаванні спецыялістаў, — пасля арышту аўтараў было названа шкодным нацдэмаўскім хламам.

Кожны савецкі грамадзянін, асабліва калі ён меў справу з кнігай, лічыў сябе кандыдатам на арышт. Кожны інтэлігент, каб пазбегнуць непрыемнасцяў, калі давядзецца быць арыштаваным, вельмі старанна сачыў, каб своечасова знішчыць кнігі, газеты, фотаздымкі, карціны тых, хто ўжо арыштаваны.

Звычайна кожны арышт суправаджаецца старанным вобшукам, забіраюцца фотаздымкі нават даўно памерлых або тых, хто не меў ніякага дачынення да арыштаванага, забіраецца прыватнае ліставанне, дакументы і кнігі ўжо арыштаваных аўтараў. Потым у ДПУ ўсё гэта сартуецца і вышукваецца матэрыял для абвінавачвання, Такім чынам загінулі і гінуць ў агні найкаштоўнейшыя працы, дарагія чалавеку фотаздымкі блізкіх і родных, сямейнае ліставанне. Кожны палічыць за лепшае аддаць агню, а не брудным рукам следчага ДПУ ўсё падазронае.

*Вось кароткі пералік знішчаных прац, якія маюць агульнае значэнне:*

1. Зборнік беларускай народнай творчасці.
2. Краёвыя слоўнікі: Чэрвеньшчыны, Мазыршчыны, Віцебшчыны.
3. Чатырохсотгоддзе беларускага друку.
4. Беларускі архіў (перыёдыка).
5. Усе творы паэта Алеся Гаруна (памёр на эміграцыі).
6. Працы першага з'езду даследчыкаў беларускай археалогіі і археаграфіі.
7. Працы аддзела гуманітарных навук Беларускай Акадэміі навук (філалогіі, гісторыі, этнаграфіі, археалогіі, мастацтва, права).
8. Серыя выданняў беларускай навуковай тэрміналогіі.
9. Матэрыялы да беларускай навуковай тэрміналогіі.
10. Беларускія казкі, прыказкі і замовы, запісаныя і апрацаваныя Аляксандрам Сержпутоўскім.

Гэта толькі нязначная частка каласальнай варварскай працы.

У кнігарнях ужо не выстаўляліся і не рэкламаваліся кнігі беларускіх пісьменнікаў з-за боязі ўсялякіх нечаканасцяў у дачыненні да аўтараў-беларусаў. Зніклі разнастайныя плакаты з беларускім арнаментам, што віселі дзеля прапаганды ў грамадскіх месцах — клубах, чытальнях, у фае тэатраў і кіно. Некаторыя занадта палахлівыя кіраўнікі ўстановаў паспяшаліся перафарбаваць свае службовыя кабінеты, якія ў свой час таксама без патрэбы былі распісаныя беларускім арнаментам і эмблемамі.

Нельга сказаць, што гэтая «чыстка» ад усяго беларускага нацыянальнага, часта даведзеная да абсурду, выконвалася паводле спецыяльных дырэктываў.

**Спіс беларусаў, арыштаваных у 1930 і 1931 г. за нацыяналізм.**

Адамовіч Алесь, нам. наркамзема Дз. Прышчэпава, высланы на Салаўкі ў 1930 г.

Азбукін Мікалай, праф. Бел. універсітэта, высланы ў 1930 г. у г. Налінск.

Байкоў Мікалай, дац. філалогіі, першы раз арыштаваны ў 1930 г.

Баліцкі Антон, наркам асветы БССР, арыштаваны ў 1930 г.

Бялькевіч Іван, філолаг, арыштаваны ў 1931 г.

Галавінскі Аляксандр, інжынер, арыштаваны ў 1931 г.

Гарэцкі Максім, праф., арыштаваны ў 1930 г., высланы ў Сібір, дзе і загінуў ў 1937 г.

Гарэцкі Гаўрыла, акадэмік, арыштаваны ў 1931 г., другі раз ў 1936 г., загінуў.

Грамыка Міхаіл, геолаг, арыштаваны ў

Ігар Кузняцоў

# НОСЬБІТЫ ІДЭІ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ – АХВЯРЫ ТАТАЛІТАРНАГА РЭЖЫМА

1931 г., высланы ў Сібір.

Даўгяла Зміцер, праф., археолаг, высланы ў Сібір у 1931 г., загінуў.

Доўнар-Запольскі Мітрафан, праф., арыштаваны ў 1930 г., у Сібіры загінуў.

Дубоўка Уладзімір, паэт, высланы ў 1930 г.

Дудар Алесь, паэт, арыштаваны ў 1929 г., у 1937 г. загінуў.

Дыла Язэп, гісторык, арыштаваны ў 1930 г.

Жылка Уладзімір, паэт, арыштаваны ў 1931 г., памёр на катарзе ў 1933 г. у г. Уржуме

Забела, дац. гісторыі, арыштаваны ў 1931 г., высланы на Поўнач, загінуў.

Ігнатоўскі Усевалад, праф., прэзідэнт Акадэміі навук, застрэліўся ў 1930 г.

Каранеўскі Язэп, рэктар універсітэта, арыштаваны ў 1931 г.

Каспяровіч Мікалай, этнолаг, арыштаваны ў 1931 г., высланы ў Сібір.

Красінскі Мікалай, праф., філолаг, арыштаваны ў 1931 г., высланы на Поўнач, г. Пашахонск.

Лёсік Язэп, філолаг, арыштаваны ў 1930 г., загінуў у 1936 г.

Лістапад Юры, настаўнік, арыштаваны ў 1937 г., высланы ў Сібір.

Некрашэвіч Сцяпан, віцэ-прэзідэнт Беларускай Акадэміі навук, у 1931 г. высланы на Поўнач, загінуў.

Серада Іван, праф., філолаг, у 1931 г. высланы ў Яраслаўль.

Смоліч Аркадзь, праф., акадэмік, арыштаваны ў 1931 г., загінуў у ДПУ.

Функ Аляксандр, крытык, арыштаваны ў 1930 г.

Чаржынскі (Дзяржынскі) Уладыслаў, праф., філолаг, высланы ў 1930г. у Казань.

Чарнушэвіч Мікалай, паэт, высланы ў 1931 г.

Чарнушэвіч Нічыпар, дац. хіміі, паэт, у 1931 г. высланы ў Вяцкі край.

Пасля вялікіх арыштаў у першай палове 1930 г. можна было ўжо тады прадбачыць, што гэта — толькі пачатак шырока задуманай кампаніі разгрому нацыянальнага руху ў Беларусі. Арышты прайшлі толькі ў Менску і амаль не закранулі правінцыю. Пацярпелі Акадэмія навук, універсітэт, Наркамасветы, Наркамзем, Навукова-даследчы інстытут сельскай гаспадаркі, Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі. Пытанне ізаляцыі нацдэмаў у правінцыі, відаць, было ў стадыі «вывучэння» ДПУ.

Важна было зрэзаць вярхушку, чаго і дасягнулі арыштамі ў Менску. У Менску ж ліхаманкава працавалі акадэмічныя брыгады па выяўленні нацыянальна-дэмакратычных ухілаў у друкаваных працах Акадэміі перыяду нэпа. Выяўленыя гэтымі брыгадамі «ўхілы» старанна сістэматызаваліся, вывучаліся, рабіліся пажаданыя для ДПУ навуковыя высновы, потым друкаваліся ад імя Акадэміі навук як праца Сацыялістычнай абноўленай Акадэміі навук.

**Спіс арыштаваных у 1933 г. за правядзенне нацыянальнай працы ў Беларусі.**

1. Астапенка Зміцер, паэт, арыштаваны ў 1933 г,, другі раз у 1936 г.
2. Бойка Янка, дацэнт аграноміі, арыштаваны другі раз у 1933 г.
3. Вашына Канстанцін (Лукаш Калюга), пісьменнік, высланы ў Ірбіт.
4. Вечар Алесь, паэт, арыштаваны ў 1933 г., слядоў няма.
5. Гаўрук Юрка, паэт, белетрыст, арыштаваны ў 1933 г., слядоў няма.
6. Нікановіч Мікалай, пісьменнік, высланы ў 1933 г. на Урал, загінуў.
7. Прыбыткоўскі Вадзім, паэт, арыштаваны ў 1933 г., слядоў няма.
8. Родзевіч Леапольд, пісьменнік, грамадскі дзеяч, арыштаваны ў 1933 г.
9. Салагуб Аляксандр, паэт, арыштаваны ў 1933 г., расстраляны.
10. Сушынскі, дацэнт хіміі, высланы ў 1933 г. у Астрахань.
11. Таўбін Юлі, паэт, арыштаваны ў 1933 г., другі раз ў 1936 г.
12. Хатулёў Пятро, пісьменнік, крытык, арыштаваны ў 1934 г.
13. Шашалевіч Андрэй (Мрый Андрэй), драматург, сатырык, арыштаваны ў 1933 г.

Ігар Кузняцоў

# НОСЬБІТЫ ІДЭІ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ – АХВЯРЫ ТАТАЛІТАРНАГА РЭЖЫМА

Калі тэрор зменшыўся, вельмі нязначная частка арыштаваных была выпушчаная на волю. Аднак усе яны страцілі здароўе: былі выбітыя зубы, паламаныя рэбры, прабітая барабанная перапонка, пашкоджаная прамая кішка ад вымушанага сядзення на вострай ножцы крэсла або зэдліка.

Арыштавалі і рэшткі беларускай інтэлігенцыі, якая актыўна ні ў чым не ўдзельнічала, але было меркаванне, што яны — настаўнікі, аграномы, інжынеры, планавікі і іншыя — могуць думаць самастойна. Амаль ніхто не ацалеў і з беларускіх пісьменнікаў. Усе тыя, што пасля арышту ў 1930 г. адбылі пакаранне, пад час яжоўшчыны былі зноў арыштаваны і пакараныя яшчэ больш жорстка.

Меліся звесткі, што беларускіх супрацоўнікаў, якія ў 1930 г. былі асуджаныя за нацыянальны дэмакратызм, падчас яжоўшчыны абвінавачвалі ў фашызме, яны атрымлівалі новыя гады лагераў або былі расстраляныя. Частку арыштаваных і асуджаных у 1930 г. з лагераў перапраавілі ў Менск, у НКУС.



30 кастрычніка 1988 года. «Дзяды»
Уверсе: народ.
Унізе: супроць народа.



Праз допыты і вочныя стаўкі іх выкарыстоўвалі як сведкаў па абвінавачванні новых арыштаваных, а таксама па паказаннях новых арыштаваных старым павялічвалі тэрміны пакарання або расстрэльвалі. З вядомых беларускіх пісьменнікаў ацалелі народныя паэты Янка Купала і Якуб Колас, сатырык Кандрат Крапіва і былы старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў, камуніст Міхась Клімковіч.

Не былі арыштаваныя З. Бядуля і пісьменнікі-пачаткоўцы П. Броўка і П. Глебка.

З так званай "папкі Бермана" — наркома ўнутраных спраў БССР у сакавіку 1937 г. — маі 1938 г. відаць, што збіранне "патрэбных паказанняў" і іншых "кампраметуючых матэрыялаў" на паэтаў вялося на працягу доўгага часу. Накапліваліся яны і на старшыню Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР М.Лынькова, і на шэраг іншых творчых работнікаў — "затоеных нацыяналістаў-контррэвалюцыянераў", як гаварылася ў адной з даведак НКУС.

Людзей прывучалі да спрошчаных рашэнняў: рэвалюцыянер — контррэвалюцыянер, працаўнік — шкоднік, партыя — вышэйшая мудрасць, правадыр заўжды праў і г.д. На ворага, шкодніка, двурушніка можна было спісваць правалы, няўдачы, памылкі ў буйнамаштабных сацыяльных пераўтварэннях, якія нярэдка праводзіліся без патрэбнай арганізацыйнай падрыхтоўкі і матэрыяльнага забеспячэння, на падставе суб'ектывісцка-валюнтарысцкіх рашэнняў, растлумачваць хібы ў развіцці эканомікі, невыкананне народнагаспадарчых планаў і г.д.

Ідэолага-палітычны механізм стварэння "ворагаў народа" з прадстаўнікоў творчай і навуковай інтэлігенцыі падводзіў іх спачатку пад арышт, а потым і вышэйшую меру пакарання. "Ворагамі народа" ніхто з іх аднак не быў.

Праведзенае ў 50-я гады і ў далейшым вывучэнне паказала, што ніякіх падстаў для праследаванняў па палітычных матывах, арыштаў, тым больш для прысудаў да вышэйшай меры пакарання не было. Яны былі рэабілітаваны і па дзяржаўнай лініі, і палітычна. Рэабілітаваны пасмяротна.

Забываць пра гэты трагічны ўрок нашай нядаўняй гісторыі, будуючы новую Беларусь, мы не маем права.

*****НА РОЗДУМ*****

«…Але што карысьці з правільных думак, калі іх трэба выказваць няправільна, перакручана, наадварот. Мабыць, каб выказаць сумленную думку і не выклікаць падазрэньня, трэба было мець дужа адмысловы розум, якім мала хто з нас валодаў. Мы былі надта прастадушныя ў думках і прасталінейныя ў дзеяньнях, за што і цярпелі…»

*Цытата паводле кнігі ўспамінаў Васіля Быкава «Доўгая дарога дадому».*

## Уражанні аднаго дня

Зімна. На прыпынку – мёртвы крывавы голуб, задушаны тралейбусам. На іншым – мужыкі, якія смаляць "Прыму".

У краме – працуе сварка, душна, водарна.

Па вуліцы нясуцца сапсаваныя аўто, запраўленыя танным палівам.

У дзвярах тралейбуса, які паўзе на прыпынак, тырчыць чыйсьці чаравік.

У аўтобусе нейкі чалавек з усяе моцы крычыць на маленькую дзяўчынку. Нечакана для пасажыраў "100-га маршрута" ён зварочвае з праспекта Ф. Скарыны на вул. Захарава і вельмі паволі рухаецца. У салоне гучаць галасы: "лепей хадзіць пешшу. Застануцца цэлымі косткі і часу меней спатрэбіцца на пераадольванне адлегласці…" Большасць пасажыраў спазняецца. Людзі з "мабіламі" набіраюць нумары на сваіх тэлефонах і скрозь тлум тлумачаць сваё месцазнаходжанне…

Міхась ЛЕБЕДЗЬ

## ШОК. ГЭТА ПА-НАШАМУ, АЛЬБО АХОЎВАЕЦЦА ДЗЯРЖАВАЙ...

На першай старонцы гэтага нумара «Скарба Думак» на фотаздымку адлюстраваны цяперашні стан сядзібы А. Ромэра, якая знаходзіцца ў вёсцы Каралінова Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці. Гэты маёнтак прыблізна паўгады назад атрымаў статус гісторыка-культурнай каштоўнасці ад Дэпартамента па ахове гістоыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

## ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

Ромэр Альфрэд Ізыдор /1832 – 1897/ – мастак, скульптар, медальер, геральдык і мастацтвазнаўца, паўстанец 1863 г. Нарадзіўся ў Вільні.



Першапачаткова Ромэр навучаўся дома, потым – адначасова ў Інстытуце шляхецкім у Вільні і ў віленскага мастака Канута Русецкага. У 1850 г. пасля сканчэння Інстытута паехаў у Волагду да бацькі, які знаходзіўся там у высылцы. Пасля вяртання на Радзіму ў 1852 г. жыў разам з бацькам. У 1857 г. пасланы ім у вандроўку па Еўропе. Разам з Янам Зянкевічам, вучнем пецярбургскай Акадэміі мастацтваў наведалі Дрэздэн, Парыж, Бельгію і Італію. Пасля вяртання на Радзіму ў 1859 г. Ромэр пасяліўся ў перададзеным яму бацькам маёнтку Крэўна /Вількамірскага павета/. У 1863 г. за ўдзел у падрыхтоўцы паўстання на Літве быў арыштаваны і вывезены ў Новаалександраўск, пасля допыта да Дынабурга і трыманы ў так званым Мікалаеўскім каземаце. У сакавіку 1865 г. – асуджаны Мураўёвым на выгнанне ў Кастрамскую губерню, а яго маёнтак Крэўна падпаў секвестру. Знаходжанне ў Дынабургскай цытадэлі апісаў ва ўспамінах ілюстраваных партрэтамі таварышаў і сцэнамі з жыцця вязняў.



Старажытны шляхецкі герб роду Ромэраў

У 1867 г. Ромэр ізноў выехаў за мяжу ў шматгадовае падарожжа з мэтай атрымання мастацкай адукацыі /Францыя, Швейцарыя, Чэхія, Нямеччына/. У Парыжы знаходзіўся ў шматлікіх блізкіх сяброўскіх стасунках. Тады ім было створана шмат партрэтаў знаёмых, копій у галерэі Луўра, пінакатэкі Мюнхенскай і Дрэздэнскай. Мастацтвам займаўся пад кіраўніцтвам Леона Боната, займаўся гравюрай у Антона Аляшчынскага, маляваў акварэллю і займаўся скульптурай. 16. 04. 1871 г. выехаў з Парыжа ў Бардо, потым у Мюнхен, дзе ў Акадэміі мастацтваў навучаўся пад кіраўніцтвам А. Сэітза, потым А. Рамбэрга, спецыялізаваўся ў галіне партрэта. У 1874 г. Ромэр вярнуўся на Радзіму, ажаніўся і пасяліўся ў маёнтку жонкі, у Каралінове, які імкнуўся трымаць у годным гаспадарскім стане. Не спыняў аднак і мастацкай працы, малюючы ў майстэрні свайго брата Эдварда ў доме на Бакшце ў Вільні. Займаўся таксама геральдыкай і генеалогіяй, склаў манаграфію пра Ромэраў /Пшэмысль/, пісаў нататкі ў Слоўнік гістарычна-геаграфічны і для Яна Карловіча да яго фальклорных прац, збіраў інфармацыю аб мастацтве польскім на Літве, маляваў касцёлы, надмагіллі, народныя тыпажы, прымаёнткавыя двары, быў гарачым бібліяфілам, уладальнікам вялікага кнігазбору, набываў рукапісы і дакументы, якія дасылаў у музеі Кракава і Львова. Гэта знайшло свой адбітак найперш у багатай перапісцы Ромэра з Эдвардам Паўловічам, захавальнікам музея Асалінскіх у Львове.

У 1884 г. Ромэр пакінуў нанава збудаваны маёнтак пад апекай свайго сябра Фларыяна Даноўскага і пераехаў на 9 год у Кракаў. У 1888 г. становіцца правадзейным чальцом Камісіі гісторыі мастацтва ад Акадэміі навук. Быў чальцом Камітэту, а ў 1890 і 1891 ачольваў Дырэкцыю таварыства чальцоў вытанчанага мастацтва /TPSP/ у Кракаве. Наладзіў яшчэ больш цесны кантакт між Літвою і Кракавам, збіраючы і надалей каштоўныя рэчы мастацтва, дакументы і старадрукі. Нястомна працягваў збіраць нататкі аб разбярах, мастаках і скульптарах на Літве.

*/ Працяг чытайце на старонцы 12/*

## ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

*/Заканчэнне, пачатак на старонцы 11/*

Ромэр займаўся аднолькава, як маляваннем /алей, тэмпэра, акварэль/, так і скульптурай, у асноўным медальерствам. У яго жывапісных творах дамінуе найперш партрэт. Ромэр маляваў аўтапартрэты, партрэты сяброў і знаёмых. Яшчэ маляваў бытавыя сцэны, народны тыпаж і карціны на рэлігійную тэматыку /дзве з якіх знаходзяцца ў касцёлах Пінску і мястэчку Камаі Пастаўскага раёна/. Пакінута вялікая колькасць малюнкаў, гравюр, акварэляў, а таксама акваафорты /пераважна народны тыпаж, архітэктурныя забудовы, краявіды, карыкатуры/. Засталося шмат партрэтных медалёў, сярод якіх Паўла Сапегі, Эмэрыка Гутэн-Чапскага, Паўла Попеля, Генрыха Сянкевіча, медаль біты канцлера Мікалая Заклікі /Нацыянальны музей у Кракаве/. Узяў удзел у XVI выставе TPSP у Львове. У 1887 г. прымаў удзел у мастацкай выставе Польшчы ў Кракаве. У 1885-88 гг. быў абраны чальцом Камітэту TZSP. Выстаўляўся таксама ў Салоне Аляксандра Крывульта ў Варшаве. Памёр 12. 1. 1897 г. у Каралінове, пахаваны быў як быццам у сямейнай капліцы ў Троках.

Паводле спісу, складзенага Гэленай Ромэр-Ахэнкоўскай Ромэрам было створана 63 партрэты алеям, 81 пастэль, 41 медальён, 9 скульптур, некалькі краявідаў, копій рэлігійных абразоў і копій партрэтаў, некалькі дзесяткаў малюнкаў, гравюр, акварэляў. Абедзьве сусветныя вайны прывялі да раскіданнасці па свеце і знішчэння многіх з іх. Зараз працы Ромэра знаходзяцца ў Музеі мастацтва ў Вільні, у Нацыянальным музеі ў Варшаве, у Нацыянальным музеі ў Кракаве і іншых музеях і зборах.

**Для нас беларусаў мастацкая спадчына А.І. Ромэра прадстаўляе трайную каштоўнасць.** Яго творы мастацтва з'яўляюцца высокаякаснымі. Яны — носьбіты характэрных мастацкіх асаблівасцяў часу — выконваюць высокаэстэтычнае і духоўна-выхаваўчае прызначэнне. У іх найбольш дамінуе ўвасобленая прага любові і служэння Айчыне, якую ён разумеў і як непараўнальную пакутніцу, і як нязломную, непахісную, вольналюбную змагарку. **Яго малаацалелая спадчына, спрэс напоўненная высокагуманнымі ідэаламі, чалавецтва ва ўсіх галінах мастацтва, і на сёння з'яўляецца светачам нязгаснай Боскай веры. Веры, якая і гоіць, і моцы надае, і няспынна прымушае пераадольваючы бясконцыя перашкоды і здзекі, імкнуцца да будучыні, няўміручай Бацькаўшчыны, з ласкі Божай — і Шчаслівай, і Заможнай, і Вольнай.**

Алесь ЦЫРКУНОЎ




Monday, October 27, 2003

***Каханую Веранічку з Днём народзінаў! Усяго найлепшага ў тваім жыцці! Міхась.***

***Надзею Радзюк з Днём народзінаў! Усяго найлепшага ў тваім жыцці! Міхась.***

**Са Святам на тыдні усіх, хто ў гэтыя дні нарадзіўся, пабраўся шлюбам і г. д. Рэдакцыя "Скарба Думак".**

***Скарб Думак. № 1.*** *Выдаецца з 27 кастрычніка 2003 года.*

***Незалежнае рознабаковае выданне.*** *Распаўсюджваецца **бясплатна**.*

Галоўны рэдактар: Міхась ЛЕБЕДЗЬ. Наклад 299 асобнікаў. **27 кастрычніка 2003 года.**

Тэлефон у Менску: 233 61 89. **E-mail: lebiedz@tut.by.** Выходзіць у панядзелкі.